АСОБА

# Рэкорды Уладзіміра Ліпскага

*Хоць на беларускую Дошку гонару, хоць у міжнародную Кнігу рэкордаў Гінеса можна занесці 41 год рэдактарства ў «Вясёлцы» **Уладзіміра ЛІПСКАГА**. Дадаўшы, што і ў свае 80 ён працягвае заставацца сучасным і крэатыўным кіраўніком выдання, якое з захапленнем чытаюць беларускія дзеці. Напярэдадні юбілею я з прыемнасцю наведаўся ў рэдакцыю часопіса, які выпісваў у далёкія школьныя гады.*



**– Уладзімір Сцяпанавіч, на вялікі жаль, за апошнія два з паловай дзесяцігоддзі зніклі многія перыядычныя выданні, што выходзілі на беларускай мове: «Спадчына», «Чырвоная змена», «Беларуская мінуўшчына», «Першацвет», «Раніца»… Як вам удалося ўтрымаць «Вясёлку»?**

– Я стараюся падбіраць у рэдакцыю маладых творчых людзей, якія прыходзяць не грошы зарабляць, а служыць дзецям. Наша рэдакцыя – як адна сям'я. Клопатаў, вядома ж, хапае. Асабліва ў снежні, калі плануюцца рубрыкі на цэлы будучы год, галава аж пухне!

**– У вас не кабінет, а сапраўдны музей. Чаго тут толькі не пабачыш – і традыцыйныя лялькі ў нацыянальных строях, і калаўроткі, і старыя прасы… Каму вы ўсё гэта паказваеце?**

– Нашым чытачам – дзецям. Іх тут за год бывае да 5000. І кожны сыходзіць з «Вясёлкай» у руках. Прынясе ў сям'ю, пакажа бацькам, глядзіш – маем яшчэ аднаго падпісчыка. На сённяшні дзень Белпошта прапануе 136 выданняў для дзяцей. 136! Сярод іх толькі «Вясёлка» і «Буся» – на беларускай мове.

**– А «Буся» – гэта таксама ваш часопіс?**

– Наш. «Буську» мы выпускаем ужо гадоў пяць, ён разлічаны на дашкольнікаў. У нас усяго два дзіцячыя выданні на роднай мове. Вось каго трэба падтрымліваць і прапагандаваць! Я за мінулы год разоў 150 выступаў у школах і дзіцячых садках. Аб'ехаў усю Беларусь. Ну і, вядома ж, шукаем цікавых аўтараў. Мой даўні прынцып: глядзі не ў твар, а ў твор. У нас вядзе рубрыку сам Анатоль Клышка – аўтар «Буквара», Раіса Баравікова піша займальныя гісторыі пра свайго маленькага ўнука… І нам удаецца трымаць наклад – амаль 6000 асобнікаў.

**– «Вясёлка» – датацыйнае выданне?**

– Даўным-даўно не! Праўда, Міністэрства інфармацыі пакідае нас у спісе выданняў, якія падтрымліваюцца з дзяржбюджэту. Для падстрахоўкі – ці мала што можа здарыцца.

**– Дык як вам удаецца выжываць? Мецэнатаў знаходзіце?**

– Нас выручае толькі падпіска. Дзе ў наш час знойдзеш тых мецэнатаў? Скажам, мы рассылаем 50 лістоў з просьбай дапамагчы. А адгукнуцца толькі адзін-два адрасаты.

**– А вы ніколі не шкадавалі, што абралі такую клопатную прафесію? Калі не памыляюся, вы ж харчавік паводле першай адукацыі. Былі б цяпер шэф-кухарам якога-небудзь шыкоўнага рэстарана…**

– У вучылішча харчавікоў я трапіў выпадкова. Са школы я бачыў сябе толькі журналістам, пісаў у Васілевіцкую раёнку (Васілевічы тады былі раённым цэнтрам) пра сваіх аднавяскоўцаў – хто колькі накасіў, хто колькі ўзараў. Землякі мае працавітыя, сціплыя, добрыя, мурзатыя – няма калі памыцца… Вось я і вырашыў іх уславіць. І ўслаўляў як мог. А пасля школы паехаў паступаць у БДУ на журфак і сустрэў земляка, які вучыўся ў тэхнікуме харчовай прамысловасці. Ён мяне туды і перавабіў. Выбраўшы аддзяленне цукрыстых рэчываў, я думаў: навучуся, як цукеркі рабіць, хоць наемся! Працаваў на цукровым заводзе ў Гарадзеі, пабыў брыгадзірам, інжынерам. А пасля мяне выбралі старшынёй прафсаюзнага камітэта. 1000 членаў прафсаюза! Дырэктар, парткам і я – усё кіраўніцтва. А мне тады быў усяго 21 год. Абараняў інтарэсы рабочых, але і пісаць не пераставаў – меў нават пасведчанне пазаштатнага карэспандэнта газеты «Знамя юности». Помню, за нейкі артыкул мне далі ганарар большы, чым стыпендыя! І я зразумеў, што пісаннем таксама можна на жыццё зарабляць

**– У нашых продкаў было няпісанае правіла – ведаць свой радавод да пятага калена. У вас, здаецца, ёсць цэлая кніга на гэту тэму. Самі вы да якога калена дакапаліся?**

– Да 17-га! У кнізе «Я: праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» я апісаў 12 гербаў Ліпскіх. Сярод іх знайшоў свой – срэбныя граблі стаяць на зялёнай мураве, а наверсе – карона. Я многіх Ліпскіх пазнаёміў, натхніў на пошук радаводаў. Неяк у адной палескай вёсцы гутару з двума Ліпскімі. Яны кажуць: мы паміж сабой чужыя (а жывуць на адной вуліцы). Я паказваю ім радаводнае дрэва Ліпскіх, там іхнія продкі ў сёмым калене сходзяцца. Хлопцы, кажу, ідзіце ў магазін – трэба ж адзначыць ваша сваяцтва!

**– Адну са сваіх кніг вы нават прапаноўвалі вывучаць у… расійскіх школах. Што з гэтага атрымалася?**

– Сваю кнігу «Мая Беларусь» я сапраўды пасылаў у Міністэрства адукацыі Расіі. Напісаўшы ў лісце, што мы ў школах вывучаем гісторыю Расіі, што расійская мова з'яўляецца ў нас дзяржаўнаю. Прапанаваў хоць на адным уроку раз на тыдзень у расійскіх школах вывучаць Беларусь – нашу гісторыю, культуру. Прыйшоў казённы адказ-адпіска: немэтазгодна, у нас свая праграма. Вось такі фінал нашага сяброўства-суседства...

**– А нашаму Міністэрству адукацыі вы «Маю Беларусь» не прапаноўвалі вывучаць?**

– Па ёй тэатр «Зніч» паставіў спектакль, і ён быў паказаны ў многіх школах. Пасыл гэтай кнігі адзін: палюбіце Беларусь! Зрабіце што-небудзь карыснае для яе! Кніга атрымалася прыгожая дзякуючы мастаку Віталю Дударэнку, якога я вельмі паважаю. Дарэчы, ён нядаўна патэлефанаваў і кажа: «У замежжы зацікавіліся нашай кнігай – і афармленнем, і тэкстам». Мне здаецца, «Мая Беларусь» магла б стаць адной з культурных візітовак нашай краіны. Магчыма, кніга будзе перакладацца.

**– Як перакладзена на рускую мову ваша дакументальная аповесць пра Ігара Лучанка «Басанож па зорках». Дарэчы, нядаўна мне трапіўся на вочы гэткі абразок Уладзіміра Содаля: «Лучанок пісаў песні пра Купалу, пра Беларусь, а сам па-беларуску амаль не размаўляў. Неяк мы спаткаліся з ім каля Паштамта, я звярнуўся да яго на роднай мове, і ён мяне абазваў бэнэфаўцам. Мяне гэта да глыбіні душы параніла». Вы сябравалі з абодвума. Можаце неяк патлумачыць такія паводзіны Ігара Міхайлавіча?**

– Ігар – дабрэйшай душы чалавек. Але яго ў свой час тут моцна пакрыўдзілі. Пасля дэпутацтва ў Маскве ён хацеў выбрацца дэпутатам у Вярхоўны Савет Беларусі па сваіх Пухавічах. Але раённыя чыноўнікі знакамітаму земляку нават выступіць не далі ў Доме культуры. А Лучанок яго, па сутнасці, пабудаваў! Крыўдна, было, вядома ж. Ён мне пра тое здарэнне расказваў.

**– Дык Лучанок з-за пухавіцкіх чыноўнікаў пакрыўдзіўся на ўсіх, хто гаварыў па-беларуску?**

– Тая крыўда з яго часам выскоквала ў непатрэбны бок, мог і БНФ папракнуць.

**– А быў час, калі Лучанок на вершы Зянона Пазьняка песні пісаў.**

– Думаю, што ў глыбіні душы Ігар быў сапраўдным патрыётам Беларусі. Характар, праўда, меў складаны. І пісаць пра яго мне было няпроста. Многае так і засталося па-за кнігай.

**– Лучанок нешта не дапусціў у друк?**

– Не ён, а жонка... Аднойчы Ігар тэлефануе: «Паехалі ў Цюмень! Там жыве маё першае каханне, я ўжо квіткі купіў». І мы рванулі ў Цюмень – Ваня Краснадубскі, Лучанок і я. Дома сказалі, што едзем у Маскву па справах. Прыехалі – нас тэлебачанне сустракае, губернатар на канцэрце чакае. Падзея – Лучанок прыехаў! Я пра гэта ўсё напісаў, а рэдактура выкрасліла…

**– Ліпскі – гэта яшчэ і Аўцюкоўскі фестываль гумару. Мне пашчасціла ў далёкім 1995-м пабываць на першым фестывалі. А колькі іх увогуле з таго часу адбылося?**

– Летась адбыўся 9-ы. У Аўцюках з'явіўся цэлы маёнтак Каласка і Калінкі, кавярня «Ганарысты парсюк». Мне хочацца стварыць там музей гумару, цяпер вяду на гэты конт перамовы з раёнам і вобласцю. Бо сёлета 25-годдзе фестывалю. Выйшлі сем зборнікаў аўцюкоўскага гумару. Мы, палеская вёска, уступілі ў спаборніцтва з вядомымі сталіцамі смеху – з Габравам, з Палтавай, з Адэсай. Аўцюкі – гэта ўжо брэнд Беларусі. Наш народ ніколі носа не апускае. Вось паслухай: «Манька, ці чула: твайго чалавека на фестывалі ў Аўцюках каранавірусам узнагародзілі!» – «Ай! Пацехі мала! Мой дурань усё роўна дадому не данясе – або згубіць, або прап'е!»

**– Вы для аўцюкоўцаў фестываль прыдумалі, а яны вам чым аддзячылі?**

– Помнікам (*смяецца*). Выразалі з дрэва Ліпскага і паставілі. І кажуць: пакуль што з дрэва, пасля, як заслужыш, то і бронзы не пашкадуем.

**– Вы маеце ордэн Францішка Скарыны пад нумарам 109. Значна меншыя парадкавыя нумары ў расійскіх эстрадных спевакоў Кіркорава, Баскава, Бабкінай… Вы камфортна пачуваецеся ў такой кампаніі?**

– Ну як камфортна… Каб Скарына даведаўся, каго ягоным ордэнам узнагароджваюць, то, відаць, засмуціўся б. Што той жа Кіркораў зрабіў для беларускай нацыянальнай культуры? Ну прыязджаў, ну выступіў, зарабіў грошай і з'ехаў... З другога боку, нешта я не прыпомню, каб беларусаў у Маскве вышэйшымі ордэнамі адзначалі. А для мяне, выхадца з маленькай вёсачкі Шоўкавічы, мецьтакую ўзнагароду – вялікі гонар.

**– Вы пра свае Шоўкавічы (цяпер – Рэчыцкі раён) склалі столькі панегірыкаў! Чым незвычайная ваша родная вёска?**

– Найперш людзьмі. Пра кожнага можна апавяданне пісаць. Вось, напрыклад, дзед Леўка. Мы, хлопцы, сядзім на лаўцы, а ён падышоў, шапку зняў і павітаўся. Мы тады смяяліся з яго, а цяпер я разумею: дзед нам даў урок ветлівасці. У Шоўкавічах ёсць шматпавярховая буслянка – на ніжніх паверхах вераб'і вядуцца. Праз вёску цячэ ручаёк, упадае ў рэчку Ольсу, яна – у Бярозу, Бяроза – у Дняпро, а Дняпро – у Чорнае мора. Атрымліваецца, мае Шоўкавічы звязаны з Чорным морам!

**– А колькі жыхароў засталося ў вёсцы?**

– Мала, усяго некалькі хат. І вось што мы вырашылі зрабіць. Мой сусед Колька Трацэўскі прыцягнуў вялікі валун, я заказаў пліту гранітную з надпісам: «Вёска Шоўкавічы. Тут жылі Бабічы, Сыцькі, Трацэўскія, Ліпскія, Чэчаты, Мажэйкі, Вераб'і, Жарыны…» А ніжэй прыпіска: «6 мая 1940 г. тут нарадзіўся Уладзімір Ліпскі». Усталюем, зробім альтанку. Будзе такі сціплы мемарыял у памяць вёскі.

**– Ну не такі ўжо сціплы – з прыжыццёвай мемарыяльнай шыльдай.**

– Па-першае, я ўзгадніў з Колькам, ён даў дазвол (*смяецца*). Па-другое, я ж дзве кніжкі пра шоўкаўцаў напісаў. Мы, беларусы, залішне сціплыя, самаеды трошкі. Ледзь хто вытыркнецца – асадзі назад! Так таксама нельга. Вось у нас многія бібліятэкі маюць толькі нумары. Скажам, была ў Мінску бібліятэка №6, і я дамогся, каб ёй надалі імя выдатнага дзіцячага пісьменніка Васіля Віткі. Трэба ўсім нам варушыцца. Ёсць Міністэрства культуры, ёсць цэлыя два саюзы пісьменнікаў, яны павінны выступаць з ініцыятывамі.

**– Ходзяць чуткі, што была ініцыятыва надаць вам званне народнага пісьменніка. Можаце пракаментаваць?**

– Такая ініцыятыва сапраўды была. Пад ёй падпісаліся многія мае землякі, кіраўнікі раёнаў – Рэчыцкага і Калінкавіцкага. Але Саюз пісьменнікаў Беларусі не падтрымаў.

**– А вы не супраць былі б?**

– Я трохі баюся, быць народным вельмі адказна. З другога боку, мастакі званні народных атрымліваюць, артысты і кампазітары атрымліваюць, а чым пісьменнікі горшыя? А сёння ў Беларусі няма ніводнага жывога народнага пісьменніка.

**– 6 мая вы ў працоўным кабінеце сустрэнеце сваё 80-годдзе. Да вас ніхто на рэдактарскай пасадзе ў такім узросце не заставаўся. На заслужаны адпачынак не збіраецеся?**

– Прызнацца, я не ўяўляю сваё жыццё без актыўнай працы. Хоць вуды ўжо падрыхтаваў, ведаю, дзе водзяцца ладныя карасі. І ўсё ж хацеў бы трымаць часопіс да апошняга, ёсць шмат цікавых задум. Свайго дзяцінства не было – вайна ўкрала. Таму ўсё жыццё аддаю дзецям – 41 год у «Вясёлцы», 30 з гакам гадоў у Беларускім дзіцячым фондзе. Жонка, Ніна Іосіфаўна, не раз гаварыла: «Пасядзеў бы ты ўжо дома са мною». А мне пакуль не сядзіцца.

**– А як вы падтрымліваеце непадуладную часу фізічную форму?**

– Да эпідэміі праз дзень хадзіў у басейн. Праплывеш 1500 метраў – і выходзіш бадзёрым чалавекам. Да таго ж я даўно не палю, не злоўжываю алкаголем. Часцей другім наліваю, тосты люблю гаварыць.

**– Нават знакамітай аўцюкоўскай самагонкі на свой юбілей не вып'еце?**

– Давядзецца прыгубіць, а то землякі пакрыўдзяцца. Гэта ж я для той самагонкі назву прыдумаў – «Рагатуха». У Аўцюках хочуць яе афіцыйна выраблять, каб частаваць гасцей. А да кожнай пляшкі прымацуем кніжачку маленькую з аўцюкоўскімі жартамі. Наш народны гумар – нешта неверагоднае. Вось нядаўна пачуў: «Наша Манька раней была дзеўка на ўсё сяло, а цяпер – на ўсю печ!» У адной фразе – цэлы вобраз! Вось такія нашы аўцюкоўцы!

**Міхась СКОБЛА.**

Уладзімір ЛІПСКІ

## Мая Беларусь

***(Урывак з кнігі)***

На фрэсках маёй Беларусі ўвекавечаны полацкая Сафійка, ікона Божай Маці Жыровіцкай, званы мінскіх храмаў, берасцяная запіска з Бярэсця, велічныя гмахі Нясвіжскага замка, няскораная Белая вежа ў Камянцы...

Усё гэта – наша гісторыя. Яе старонкі высвечваюць стагоддзі, у якіх мы жылі беларусамі, аддванымі свайму роднаму куту, які падараваў нам Бог.

Наша гісторыя сведчыць: мы – людзі мірныя, чужой зямлі не прагнем, але да нас з мячом лепей не хадзіць...

Мы ўжо спазналі залежнасць. Цяпер ідзём да сваёй незалежнасці. Мальба адна: дайсці, не стаміцца, зберагчы Беларусь.

Ведай, родная Беларусь, маё сэрца – храм для цябе. У ім, маленькім, твая ікона: Багародзіца трымае Ісуса, Сына Адзінароднага. Гэтак ты, мая Беларусь, люляеш сваіх нашчадкаў. Даеш ім моц і веру, любоў і каханне.

А я абагаўляю гэтую пяшчоту і кожным ударам сэрца, як царкоўным звонам, абвяшчаю: «Малюся за цябе, Радзіма, хачу, каб упэўнена, годна сядзела на сусветным покуце, каб цябе паважалі і цанілі, каб табой ганарыўся кожны, хто дыхае тваім паветрам.

Беларусь! Ты – мой храм Выратавальніка. А я – твой храм Верніка.

Божа Нябесны! Не разлучы гэтыя храмы. Хай зніцуюцца яны ў новых пакаленнях!»

Мая Беларусь! Твая біяграфія – у даступнай кнізе, заўсёды разгорнутай для кожнага. Вось яна кляновым лістком ляжыць пасярод Еўропы. Чытай, спазнавай, наталяйся!

Пабывай у нашых паселішчах Любава, Любаны, Любічы, Любішын, Любкі, Любань...

Пасябруй з нашымі сягоднікамі Любамірам, Любаславам, Любамыслам, Любаготам, Любінскім, Любіным...

І ты зразумееш, не зможаш не зразумець, што для нас, беларусаў, слова «любіць» – загалоўнае. Яно вызначае наш лёс, характар, лад жыцця, менталітэт. Яно мацуе нас у веры, надае трывушчасці, гуртуе ў народ.

Нездарма вялікі беларус Кастусь Каліноўскі прыдумаў для паўстанцаў неўміручы, праўдзівы пароль: «Каго любіш?» – «Люблю Беларусь!» – «Так узаемна!»

ОЧЕНЬ ЛИЧНОЕ

Надежда МЕЛЕШКО:

## «Радуюсь каждому дню!»

*Жена игрока президентской хоккейной команды Дмитрия Мелешко рассказала, что ее муж по-прежнему в больнице. У него, как мы писали пару номеров назад, выявили коронавирус.*

«На следующей неделе в пятницу у меня день рождения, и в этот же день химиотерапия, – *рассказала она в соцсетях*. – Сложно представить, как я буду радоваться своему празднику… Ведь в этот день я буду как овощ… Планирую перенести на один день, чтобы хотя бы с детьми сесть за стол, задуть свечку. Но пока даже не понимаю, нужен ли мне этот праздник. Муж по-прежнему в больнице с коронавирусом, с друзьями я не встречаюсь из-за слабого иммунитета, а даже если бы и могла, сил нет, чтобы накрыть стол. Родители далеко в деревне, в Витебской области. Мама рвется ко мне, но я не хочу подвергать ее опасности. Замкнутый круг. Птичка хочет на волю…

Но, несмотря на все это, я радуюсь каждому дню и всему, что меня окружает. Хорошо, что наш карантин после контакта с мужем закончился, и теперь я могу сходить погулять в любимое поле, насладиться лесным воздухом. Дети рядом, и это прекрасно!

Порой благодаря работе я забываю, что болею, только лысая голова и искусственный климакс, от которого то в жар, то в холод, напоминает о болезни.

Прорвемся! Впереди долгая и счастливая жизнь! И много дней рождений!»

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## Дарья Шманай познакомилась с Татьяной Дорониной



*Актриса подписала помощнице белорусского президента книгу и пожелала ей счастья в личной жизни.*

«Я благодарна жизни за то, что она знакомит меня с удивительными людьми! – *написала в соцсетях Дарья Шманай, которая до недавнего времени работала начальником отдела государственного протокола президента*. – На своем 26-м году жизни я познакомилась с народной артисткой СССР Татьяной Васильевной Дорониной! Мне до сих пор поверить в это трудно…

Татьяна Васильевна удивительной души человек, глубокий, очень мудрый, справедливый и, конечно, очень сильный! Эту книгу я получила от нее на 8 Марта, и как же удивительны эти слова! Общность и родство оттого, что ее отец также родился 2 мая! Желаю здоровья Татьяне Васильевне и долгих лет жизни! Дай Бог! Спасибо, жизнь, за каждого человека в моей судьбе…»



Народная Воля http://www.nv-online.info
5 МАЯ 2020 г.

ВІНШУЕМ!

# Цеплыня пацалунка



Яна нарадзілася 4 мая пераможнага 1945-га, за пяць дзён да самага радаснага дня ў ХХ стагоддзі. Нарадзілася ў далёкім Яраслаўлі на Волзе, а гадавалася ў зруйнаваным вайной Мінску. Руская па нацыянальнасці, шчыра і шчодра прыняла ў сваю душу і беларускую мову, і беларускую літаратуру. Ёй выпаў лёс стаць жонкай будучага класіка Міхася Стральцова, падзяліць з ім жыццёвыя радасці і нягоды. А ў жыцці паэтаў, як правіла, іх бывае з каптуром...

А ўжо ў ХХІ стагоддзі ёй, Алене Дзмітрыеўне Стральцовай, было наканавана стаць ахоўніцай памяці творцы, чыё прызнанне адбылося ўжо ў наш час. А спасціжэнне будзе працягвацца яшчэ доўга, бо Міхась Стральцоў – з'ява шмат у чым загадкавая і вымагае ўдумлівага асэнсавання.

Стральцоўская літаратурная прэмія, штогадовы Стральцоўскі паэтычны фестываль "Вершы на асфальце", Стральцоўскія кнігі ў прэстыжных серыях "Беларускі кнігазбор" і "Беларуская мемуарная бібліятэка" – да ўсяго гэтага мае дачыненне Алена Дзмітрыеўна, у кожную справу ўкладаючы часцінку сваёй душы.

Паўвека таму ў прысвечаным ёй вершы Міхась Стральцоў напісаў: "*Ізноў цябе заву, / маленькую, малую, / схіляю галаву / і холад воч цалую*". І цеплыня таго пацалунка дайшла да нашых дзён і дойдзе да дзён наступных. Бо гэта пацалунак генія.

На жаль, пандэмія не дала адзначыць юбілей спадарыні Алены ў коле сяброў. Сёлета і пераможныя салюты па ўсім свеце прагучаць прыглушана. Але салюты сардэчных пачуццяў больш прыемныя за артылерыйскія! І яны гучалі – ад сэрца да сэрца. І вы іх заслужылі, Алена Дзмітрыеўна!

**Міхась СКОБЛА.**

Фота Сяргея Шапрана.

ПРЫЗНАЧЭННЕ

# Новыя вышыні Андрэя Скабелкі

*У мінулыя выхадныя беларускі хакейны спецыяліст узначаліў яраслаўскі "Лакаматыў". Кантракт разлічаны на тры гады.*



Як вядома, Андрэй Скабелка на працягу двух сезонаў узначальваў «Барыс» і зборную Казахстана. Пад яго кіраўніцтвам «Барыс» паказаў лепшыя вынікі ў гісторыі рэгулярных чэмпіянатаў, а таксама двойчы прабіўся ў другі круг плэй-оф Кубка Гагарына. У мінулым годзе Скабелка вывеў зборную Казахстана ў элітны дывізіён чэмпіянату свету.

Раней беларускі трэнер працаваў у «Торпедо», «Сибири» і «Авангарде» і заўсёды высока каціраваўся як спецыяліст.

Пажадаем яму поспехаў і ў новым клубе!

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

КАДРЫ

# Рыхтуйце сані вясной!

*Учора беларускія біятланісты пачалі ў Раўбічах першы перадсезонны вучэбна-трэніровачны збор.*

Не так даўно былі анансаваны змены ў трэнерскім штабе жаночай зборнай Беларусі па біятлоне – зараз яе ўзначалілі **Алег Рыжанкоў** і аўстрыйскі спецыяліст **Райнхард Гесвайнер.** Мужчынскую каманду будуць трэніраваць расійскі спецыяліст **Андрэй Падзін** і беларускі трэнер **Раман Сінічэнка**.

Калі казаць пра аўстрыйца, то гэта даволі вядомы спецыяліст. На працягу васьмі гадоў ён узначальваў зборную Аўстрыі па біятлоне, таксама быў асабістым трэнерам алімпійскіх прызёраў **Даменіка Ландэрцінгера** і **Крыстафа Зума**.

Дарэчы, расіянін **Уладзімір Каралькевіч**, які апошнім часам працаваў з жаночай зборнай Беларусі, стаў старшым трэнерам нацыянальнай каманды Расіі і выклікаў у свой адрас даволі шмат крытыкі.

"*Пры Каралькевічу зборная Беларусі заняла 12-е месца, каманда страціла квоту,* – выказаўся кіраўнік Саюза біятланістаў Расіі **Віктар ДРАЧОЎ**. – *Паўтара года ён там адпрацаваў – і што напрацаваў, мы таксама ведаем. Яго на трэці круг імкнуцца зацягнуць у зборную Расіі, але каму гэта трэба?*

*Калі і Міністэрства спорту глядзіць на гэта скрозь пальцы, і Алімпійскі камітэт, тады я падымаю рукі і прапаную працаваць і чакаць новых "выдатных" поспехаў*".

Нагадаем, што раней і некаторыя беларускія біятланісткі былі супраць прызначэння Каралькевіча на пасаду галоўнага трэнера зборнай, але да іх тады не асабліва прыслухоўваліся. Але ўсё цячэ, усё змяняецца…

**Віктар ШПАК.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ:

# «У «справе Арзамасавай» кропка не пастаўлена»

*Старшыня Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі распавёў "Народнай Волі" пра гучныя допінгавыя справы і пра тое, як зараз атлеты рыхтуюцца да будучых стартаў.*



Нагадаем, што ў жніўні мінулага года стала вядома: беларуская лёгкаатлетка **Марына Арзамасава** часова адхілена ад спаборніцтваў праз падазрэнне ў прыняцці допінгу. У допінг-пробе спартсменкі было выяўлена забароненае рэчыва LGD-4033, якое садзейнічае ў тым ліку і нарошчванню мышачнай масы.

Арзамасава запатрабавала ўскрыць пробу "В", расследаванне праводзіць Незалежны саюз па барацьбе з негатыўнымі з'явамі пры Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

– Кропка ў справе пакуль не пастаўлена, – кажа **Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ**. – У спартсменкі ёсць сваё тлумачэнне таго, што адбылося, і мы яго ведаем. Зараз яно разглядаецца ў Саюзе па барацьбе з негатыўнымі з'явамі.

**– Ці надоўга можа зацягнуцца разгляд?**

– Марына адказала на ўсе неабходныя пытанні, і зараз мяч на баку міжнароднай федэрацыі. Напэўна, усе выкладзеныя факты яшчэ раз правяраюцца, але мы не можам на нешта паўплываць альбо нешта паскорыць.

Увогуле, усе былі проста ў шокавым стане ад навіны пра станоўчую допінг-пробу Арзамасавай. Гэтак жа, як і ад інфармацыі пра забаронены прэпарат, знойдзены у арганізме нашага атлета Дзмітрыя Набокава.

**– Пры горшым раскладзе якое пакаранне чакае Марыну Арзамасаву?**

– Цяжка сказаць, але пра горшы расклад, шчыра кажучы, нават не хочацца думаць.

**– Беларуская штурхальніца ядра Надзея Астапчук пасля таго, як закончылася яе дыскваліфікацыя, марыць вярнуцца ў вялікі спорт, але, наколькі вядома, павінна аддаць даволі вялікую суму грошай. Як, на ваш погляд, можа вырашыцца гэта сітуацыя?**

– Так, паводле рэгламенту, каб ізноў выступаць, спартсменка павінна вярнуць заробленыя грошы Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі. І сума, скажам так, даволі ўнушальная – некалькі сот тысяч долараў. Пры гэтым сюды ўваходзяць не толькі тыя грошы, якія Надзея атрымала ў якасці прызавых на рукі, але і падаткі, якія вылічылі пасля спаборніцтваў у іншых краінах.

І тут трэба разумець, што Міжнародную федэрацыю наўрад ці можна расчуліць нейкімі апраўданнямі і чакаць, што яна пойдзе на пэўныя саступкі і зменшыць суму. У яе свая жорсткая прынцыповая пазіцыя, якая тычыцца не толькі Надзеі Астапчук, але і іншых спартсменаў.

**– Алімпіяды ў гэтым годзе не будзе, таму планы падрыхтоўкі ў многіх спартсменаў і іх трэнераў змяніліся. Чым атлеты зараз займаюцца?**

– У кожнага ёсць пэўная індывідуальная праграма. Мы яшчэ спадзяваліся на чэмпіянат Еўропы, які павінен быў прайсці ў жніўні гэтага года ў Парыжы, але ўжо дакладна вядома, што і ён адменены.

Таму ў сёлетнім сезоне, на жаль, міжнародных стартаў не будзе, а мы будзем акцэнтаваць увагу на чэмпіянаце Беларусі. Усё роўна трэба будзе даць ацэнку таму, як спартсмены падышлі да Гульняў, якія ў гэтым годзе не адбудуцца.

**– Днямі ў Беларусі прайшлі першыя афіцыйныя дыстанцыйныя спаборніцтвы па штурханні ядра…**

– І трэба сказаць, што да іх быў значны інтарэс з боку балельшчыкаў. У прамым эфіры за стартамі сачылі каля 400 чалавек, а зараз мы маем ужо 1500 праглядаў. А выступалі ж не алімпійцы, а наш рэзерв.

Нам вельмі важны інтарэс балельшчыкаў, але яшчэ важней эмоцыі спартсменаў і трэнераў, якія проста ў захапленні ад такой ініцыятывы. У адсутнасць міжнародных стартаў гэта як глыток свежага паветра. Мяркую, такую форму спаборніцтваў можна будзе практыкаваць і далей.

**Алесь СІВЫ.**

ШАХМАТЫ

## Творчы юбілей




Сёлета 50-годдзе сумеснай творчай дзейнасці адзначае дуэт беларускіх шахматных кампазітараў – майстра спорту **Мікалая Бельчыкава** (г.Барысаў) і **Мікалая Быкава** (Баранавіцкі раён). Наступная іх задача *(гл. дыяграму)* амаль паўстагоддзя таму атрымала другі прыз на буйным усесаюзным конкурсе, а сёння суаўтары прапануюць яе палепшаную рэдакцыю, знойдзеную не так даўно.

**Белыя:** Крh8, Фd3, Лg7, Сb1, Кh6, пf5 (6).

**Чорныя:** Крf6, Лb4, Са2, Се5, пп. b6, d7 (6).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Шлях да перамогі

У пазіцыі з партыі белыя дасягаюць перамогі камбінацыйным шляхам. Паспрабуйце знайсці яго.

**Белыя:** Кра1, Фа5, Лh1, Сс3, пп. а2, b2, f3, g4 (8).

**Чорныя:** Крg8, Фg5, Ле8, Кf6, пп. b5, c4, f7, g6 (8).

**Ход і выйгрыш белых.**

## Каралеўскі марш

Прааналізуем задачу брэсцкага складальніка **Аляксандра Варыцкага**, якая нядаўна была адзначана ганаровым водгукам на міжнародным конкурсе да 75-годдзя Перамогі.

**Белыя:** Крh5, Лh3, Лh6, Сf8, Сh7, пп. е5, g6 (7).

**Чорныя:** Крh8, Ла6, Ла7, Са5, Се8, Кb7, Кb8, пп. c7, d6 (9).

**Мат за 12 хадоў.**

Шматхадоўка цікавая марш-манеўрам белага караля, а кульмінацыйны яе момант – ахвяра белай ладдзі на пятым ходзе, чым чорны слон заманьваецца на іншую дыяганаль, дзе ён праз некалькі хадоў будзе перашкаджаць уласнай ладдзі.

Рашае 1.Крg4! Сd7+ 2.Крf3 Сс6+ 3.Кре2 Сb5+ 4.Крd1 Са4+ 5.Лb3! С:b3 6.Кре2 Сс4+ 7.Крf3 Сd5+ 8.Крg4 Се6+ 9.Крg5! Сd2+ 10.Крf6 С:h6 11.С:h6 de 12.Сg7х, 10...Сg5+ 11.Кр:g5 de 12.g7 х.

## Калі белыя мацнейшыя…

У мінулым выпуску мы распавялі пра перыпетыі турніру прэтэндэнтаў у Екацярынбургу, які быў спынены на палове дыстанцыі. Сёння прапануем яшчэ адну партыю з яго, дзе віцэ-чэмпіён свету перамог маладога расійскага гросмайстра.

***Фабіяна Каруана – Кірыл Аляксеенка***

1.d4 Кf6 2.c4 e6 3.Кc3 Сb4 4.f3 d5 5.a3 Се7 6.e4 de 7.fe c5 8.d5 ed 9.ed 0-0 10.Се2 Ле8 11.Кf3 Сg4 12.0-0 Кbd7 13.d6 Сf8 14.h3 Сh5 15.Кb5 Ле6 16.Сf4 a6 17.Кc7 Ле4 18.Сh2 Лс8 19.g4 С:g4 20.hg К:g4 21.Сd3 К:h2 22.С:е4 К:f1 23.Ф:f1 С:d6 24.Кd5 g6 25.Фh3 Крg7 26.Крh1 Ке5 27.Кh4 h5 28.Лg1 Сf8 29.Кf4 Кg4 30.К:h5+ gh 31.Сf5 Се7 32.С:g4 hg 33.Ф:g4+ Сg5 34.Фh5, 1:0.

А наступная партыя была згуляна ў сёлетнім першынстве Беларусі сярод шахматыстаў да 20 гадоў.

***Вячаслаў Зарубіцкі – Міхаіл Спіжарны***

1. e4 c5 2. Кf3 e6 3. d4 cd 4. К:d4 a6 5. c4 Кf6 6. Кc3 Сb4 7. Фd3 Кс6 8. a3 Ке5 9. Фg3 С:c3+ 10. Ф:c3 d6 11. f3 0-0 12. Се2 b6 13. 0-0 Сb7 14. Фb3 Лс8 15. Сg5 Фc7 16. Лас1 Лfd8 17. Лfd1 Кеd7 18. Фе3 h6 19. Сh4 Фb8 20. Сg3 Кh5 21. Сf2 Кhf6 22. Сf1 Ле8 23. Фd2 Лed8 24. b4 Ке5 25. Фb2 d5 26. ed ed 27. Кf5 Ле8 28. c5 bc 29. bc Сс6 30. Фс3 Лcd8 31. Кd6 Ле6 32. Сg3 Кfd7 33. Ле1 Лde8 34. К:е8 Ф:е8 35. С:а6 d4 36. Ф:d4 С:f3 37. Сb5 Кс6 38. Фd3 Се4 39. Л:е4 Л:е4 40. С:с6 К:c5 41. Л:c5 Ле1+ 42. С:е1 Ф:е1+ 43. Фf1 Фе3+ 44. Фf2 Ф:а3 45. Сb5 Фа1+ 46. Сf1, 1:0.

## Праверце адказы

Задача Ч.Якубоўскага, змешчаная ў "Народнай Волі" 14 красавіка, рашаецца: **1.Фf4!**

Першымі правільна рашылі **Васіль Жуковіч, Мікалай Шклярэўскі, Ігар Ананіч, Славамір Буката, Сяргей Галкін, Леанід Калодка, Віктар Жук.** На шэраг заданняў даслалі адказы **Ігар Гулік, Алесь Заранок.**

**Вадзім ЖЫЛКА.**



ФУТБОЛ

# БАТЭ набірае ход

*Адбыліся матчы 7-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



Фота: fcisloch.by.

Вось іх вынікі: "Смалявічы" – "Энергетык-БДУ" – 0:2, "Мінск" – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 2:5, "Рух" (Брэст) – "Гарадзея" – 1:1, "Дынама" (Мінск) – "Слуцк" – 1:2, "Белшына" (Бабруйск) – "Дынама" (Брэст) – 0:3, "Віцебск" – "Славія" (Мазыр) – 2:3, БАТЭ (Барысаў) – "Нёман" (Гродна) – 3:1, "Шахцёр" (Салігорск) – "Іслач" (Мінскі раён) – 4:0.

Дарэчы, сярэдняя наведвальнасць 7-га тура – 529 гледачоў на матчы.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Слуцк | 7 | 5 | 1 | 1 | 14–9 | 16 |
| Тарпеда-БелАЗ | 7 | 4 | 2 | 1 | 9–4 | 14 |
| БАТЭ | 7 | 4 | 1 | 2 | 11–6 | 13 |
| Энергетык-БДУ | 7 | 4 | 0 | 3 | 8–7 | 12 |
| Іслач | 7 | 4 | 0 | 3 | 9–11 | 12 |
| Шахцёр | 7 | 3 | 2 | 2 | 9–3 | 11 |
| Дынама (Бр) | 7 | 3 | 1 | 3 | 9–7 | 10 |
| Віцебск | 7 | 3 | 1 | 3 | 6–8 | 10 |
| Славія | 7 | 3 | 1 | 3 | 10–12 | 10 |
| Гарадзея | 7 | 3 | 1 | 3 | 4–6 | 10 |
| Рух | 7 | 2 | 3 | 2 | 3–3 | 9 |
| Мінск | 7 | 3 | 0 | 4 | 11–15 | 9 |
| Дынама (Мн) | 7 | 3 | 0 | 4 | 10–8 | 9 |
| Нёман | 7 | 2 | 2 | 3 | 7–7 | 8 |
| Смалявічы | 7 | 0 | 3 | 4 | 3–9 | 3 |
| Белшына | 7 | 0 | 2 | 5 | 5–13 | 2 |

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 04.05.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 005 экз. Заказ № 1520.